Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 30(5361)
Аўторак, 12 сакавіка 2002 года

Вопыт

## Вегетарыянства гурманам не пагражае

**_Нават самага пераборлівага перакане ў гэтай высновае прадукцыя Мінскага мясакамбіната. Яе, яшчэ цёпленькую, дэгуставалі работнікі сталічнай сістэмы прафтэхадукацыі. Праўда, сабраліся яны на прадпрыемстве не толькі каб паспытаць мясных прысмакаў._**

**_Прафтэхвучылішча № 38 мае перапрацоўчы профіль і сталыя сувязі з мясакамбінатам. Нават вытворчыя класы ўстановы знаходзяцца на тэрыторыі апошняга. Там і праводзяць свае ўрокі майстры вытворчага навучання. На гэты раз урокі былі адкрытымі, і госці займелі добрую магчымасць пазнаёміцца са спецыфікай перапрацоўчай вытворчасці._**

А спецыфіка гэтая пачынаецца ўжо з вучылішча. Устаноў такой галіны захавалася толькі дзве. Ёсць яшчэ аднатыпнае вучылішча ў Оршы, ды яно значна скараціла прыём навучэнцаў. І, вядома, чаму. Не, вегетарыянства тут ні пры чым. Эканамічнае становішча падводзіць. Айчынная перапрацоўчая прамысловасць прыкметна зменшыла свае аб'ёмы з празаічнай прычыны – недахопу сыравіны, то бок, таго самага мяса.

Такая сітуацыя адразу адчуваецца і па рабоце прамысловага гіганта – Мінскага мясакамбіната. Частка яго вытворчых плошчаў увогуле не задзейнічана. Ажыўлены перапрацоўчы працэс толькі ў каўбасным і паўфабрыкатным цэхах. Але не таму, што мяса тут хапае. Як вядома, у вырабе каўбас, пельменяў выкарыстоўваецца фарш. А яго можна рабіць і без мяса, альбо з дабаўкамі. Не сакрэт, што каб знізіць цану на каўбасныя вырабы і гэтым павысіць пакупніцкую здольнасць насельніцтва, гарадскімі ўладамі было прынята рашэнне зменшыць у гэтых вырабах колькасць мяса. Гараджане ўжо прызвычаіліся да мяса-раслiннай прадукцыі, дзе пераважаюць бульба і гарох. Але гурманы ўсё ж не замаркоцяцца. Тут выпускаюць і чыста мясныя вырабы: вяленыя і вэнджаныя каўбасы, паляндвіцы, шынкі. У той жа прапорцыі, што і колькасць заможных пакупнікоў адносна ўсяго гарадскога насельніцтва. А іх, на жаль, нямнога.

– Трэба аддаць належнае кіраўніцтву мясакамбіната, – зазначае дырэктар вучылішча Васіль Сцяпанавіч Мачуйскі. – Пры гэтай складанай сітуацыі ў прадпрыемства ёсць яшчэ справа і да нас. Мяркуйце самі. Пытанні вытворчага навучання, практыкі, працаўладкавання вырашаем разам. І, у асноўным, толькі станоўча. Маем і матэрыяльную падтрымку. Рамонт, абсталяванне – гэта ўжо справа базавікаў. Для нашых калег з бліжняга замежжа – гэта як дзіва. У Расіі, на Украіне, у Малдове ідзе павальнае скарачэнне прафтэхустаноў перапрацоўчай прамысловасці. Галіной верхаводзяць прыватнікі. А навучанне – увогуле платнае.

Сапраўды, мінскую ўстанову ўдалося захаваць у поўным аб'ёме. Колькасць навучэнцаў тут не змяншаецца, а па-ранейшаму застаецца на адной планцы ў 700 чалавек. Выкладаюцца ажно адзінаццаць прафесій, якія можна падзяліць на тры групы: тэхналагічная – па перапрацоўцы мяса, поварская – па прыгатаванні страў, і тэхнічная – па абслугоўванні абсталявання перапрацоўчай прамысловасці. Прафесіі разнастайныя, інтэграваныя, а змест навучання максімальна набліжаны да вытворчасці. І гэта не прыхамаць установы, а патрэба прадпрыемстваў. Акрамя Мінскага мясакамбіната вучылішча пастаўляе кадры на Мінскі мясаперапрацоўчы завод, на вытворчае аб'яднанне "Мясамалако", ва ўпраўленне грамадскага харчавання, на дзяржаўнае аб'яднанне рыбнай гаспадаркі "Дзяржрыбгас". Выпускнікі там працуюць без нараканняў з боку вытворцаў. А ў гэтым, канешне, бясспрэчная заслуга і дырэктара Мачуйскага, і яго намеснікаў Ірыны Мар'янаўны Амбражэй і Анатоля Барысавіча Кірплюка. Навучальны працэс арганізаваны такім чынам, што падлеткі на занятках атрымліваюць максімум ведаў, а практычныя навыкі адпрацоўваюцца да аўтаматызму. На гэта накіравана метадычная работа, укараненне новых тэхналагічных прыёмаў, немалаважную ролю адыгрывае і сучаснае абсталяванне.

На адкрытых уроках майстры вытворчага навучання прадэманстравалі свой вопыт. Хто дагэтуль, здавалася б, ведаў значэнне слова "абваляць", пераканаўся цяпер у памылковасці сваіх уяўленняў. Абваляць – гэта зусім не значыць абляпіць. Абваляць – значыць аддзяліць мяса ад косткі. Менавіта гэтаму працэсу і вучыла будучых спецыялістаў Святлана Станіславаўна Недашкоўская. Вучыла на асабістым прыкладзе, тлумачачы кожны свой рух.

Стаж работы ў майстра немалы: больш дваццаці гадоў, а таму нажом арудавала проста ўсім на дзіва. Навучэнцы назіралі з захапленнем, пакуль самі не паспрабавалі. Ого, няпроста абваляць свіную лапатку! Нават правільна пакласці яе на стале складана: цяжаленная. Але ўсё яшчэ наперадзе: аддзяліць мышачную тканку ад костак перадплечча, аддзяліць мышачную тканку з боку прамянёвай косці і гэтак далей – яшчэ ажно па дзевяці аперацыях. Мала таго, кожнае практычнае заданне падмацоўвалася ведамі па агульнай тэхналогіі мяса, па спецыяльнай тэхналогіі і абсталяванні, па анатоміі жывёл, мікрабіялогіі, санітарыі і гігіене. Ва ўсялякім разе, пытанне, чым адрозніваецца левая свіная лапатка ад правай, навучэнцы засвоілі. (Каб усе так дарослыя яго ведалі!) І толькі на адно пытанне проста словамі не адкажаш. Ад якіх фактараў залежыць якасць і хуткасць работы абвальшчыка? Адказ прыйдзе з гадамі і з вопытам.

Цяжка сказаць, ці купляе хто ў магазіне цэлую свіную лапатку. А вось мець справу з выразкай зручна для ўсіх хатніх гаспадынь.

Таму карысным быў урок Валянціны Паўлаўны Дзіткоўскай. Будучыя выраблялынікі паўфабрыкатаў вучыліся наразаць порцыі з гавяджай выразкі. Мала хто ведаў, што з яе атрымліваецца ажно пяць відаў паўфабрыкатаў.

Валянціна Паўлаўна, як сапраўдны майстар, у кальчужнай пальчатцы на левай руцэ і вострым нажом у правай, умела дэманстравала рабочыя прыёмы нарэзкі:

"Кладзём гавяджую выразку бліскучым сухажыллем уверх. Выдаляем яго з выразкі. Адразаем яе верхнюю частку пад вуглом 45°.

Наразаем парцыённы паўфабрыкат біфштэкс натуральны – 2–3 порцыі. Затым з сярэдняй часткі гавяджай выразкі наразаем філе.

З астатняй – наразаем парцыённа паўфабрыкат лангет, які складаецца з двух частак. Непарцыённыя кавалкі мышачнай тканкі наразаем для шашлыкоў і бефстраганаў".

Гэтая інструкцыя цалкам можа задаволіць любую, нават нявопытную гаспадыню. Але сапраўдных выраблялынікаў мясных паўфабрыкатаў – не зусім. Не менш важна зрабіць порцыі адпаведнай вагі. Кожная з іх павінна важыць 80 альбо 125 грамаў. Нарэзку такіх аднолькавых порцый можна параўнаць хіба што з ювелірнай работай. Рука павінна быць цвёрдая, а вокамер – дакладны.

Валянціна Паўлаўна, сапраўдны ювелір, дасць фору любому. У яе рабоце ні грама хібнасці. Порцыі – роўныя, адной таўшчыні і вагі. А гэта ўжо майстэрства. І толькі крок да яго зрабілі ў час гэтых урокаў навучэнцы. Спасціжэнне сакрэтаў іх будучай прафесіі прадоўжылася потым у цэхах мясакамбіната. Там была работа. Мабыць, вегетарыянства нам усё ж не пагражае. Гурманам на радасць.

**Ала КЛЮЙКО.**



Аляксандр Сямёнавіч Ягнешык, неаднаразовы прызёр і пераможца чэмпіянату рэспублікі па у-шу, прызёр чэмпіянату Еўропы, выкладае фізічнае выхаванне і вядзе секцыю боксу ў школе вёскі Яглевічы Івацэвіцкага раёна. Цяпер ён трэніруе свайго сына дзесяцікласніка Віталя, які быў прызёрам першынства краіны па тайландскаму боксу, чэмпіёнам Беларусі па боксу, увайшоў у маладзёжную зборную рэспублікі.

НА ЗДЫМКУ: бацька і сын Ягнешыкі.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Падзеі

## Адкрыты маладзёжны клуб

**_Адкрыццё маладзёжнага клуба "T.R.O.E" (што значыць "Права на роўнасць") з адпаведнымі выпадку ўрачыстасцямі прайшло ў Жодзіна на пачатку сакавіка. Тое стала вынікам сумеснага праекта Беларускага грамадскага аб'яднання "Розныя - роўныя" і Жодзінскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей пры падтрымцы амерыканскага дабрачыннага фонду "Counterpart Alliance for partnership"._**

Праект накіраваны на падтрыманне маладзёжных ініцыятыў. Падчас правядзення папярэдніх семінараў хлопцы і дзяўчаты самі вырашылі, што ім трэба клуб, сустрэчы і актыўнае жыццё.

"Праблема вольнага часу, самарэалізацыі моладзі, асабліва моладзі з фізічнымі абмежаваннямі, стаіць сёння вельмі востра, – кажа Тамара Елісеева, дырэктар жодзінскага цэнтра. – Цяпер у горадзе каля 1,5 тысячы інвалідаў, 30 працэнтаў з якіх – моладзь. Наша база даных па маладых людзях, якім неабходна псіхалагічная дапамога, складае амаль 2 тысячы чалавек. Таму мы з радасцю пайшлі на супрацоўніцтва з "Рознымі – роўнымі" ў стварэнні клуба".

Задача новай установы – дасягненне свабодных і роўных стасункаў моладзі з фізічнымі абмежаваннямі і без такіх. Цяпер у клубе праводзяцца: "круглы стол", дзе абмяркоўваецца працаўладкаванне інвалідаў, экалагічная акцыя па ўпарадкаванні лесу, семінары, вечарыны, дыскатэкі і інш.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

Фестывалі

## Белы Замак — 2002

**_На тры дні Мінскі Палац дзяцей і моладзі ператварыўся ў сярэднявечны пляц, на якім праходзіў V фестываль сярэдневяковай культуры і музыкі "Белы Замак". Ён з'яўляецца старэйшым пасля легендарнага рыцарскага фестывалю ў Мірскім замку і праводзіцца ў Мінску з 1997 года. Ініцыятарам і аўтарам ідэі выступіў "Ордэн Паўночнага Храма" - адно са старэйшых рыцарскіх ваенна-гістарычных аб'яднанняў Беларусі._**

Ужо стала добрай традыцыяй наведванне гэтага фестывалю клубамі розных краін: Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы (сёлета прыехала 30 клубаў). Толькі ў "Белым Замку" турнір і бугурт (захоп крэпасці) праводзяцца па сярэдневяковых канонах і правілах XIII ст. Праграма фестывалю насычана мерапрыемствамі, якія найбольш поўна перадаюць атмасферу шматдзённага рыцарскага турніру. Звон мячоў, грукат кальчуг, цоканне шпор, бадзёрыя галасы ўдзельнікаў... Кожны прывёз на фестываль нешта сваё, асабістае: клуб "Ойра" (Пінск) - вызнае шлях рыцарскіх адзінаборстваў, нават дзяўчаты ў іх валодаюць мячом; клуб "Копье" (Мінск) - гэта выдатныя вайкенгі, якія займаюцца рэканструкцыяй эпохі вікінгаў; клуб "Замок Истенбург" (Чарняхоўск, Калінінградская вобл.) - вядзе няроўную барацьбу з часам, займаючыся ўзнаўленнем помніка архітэктуры XIV ст. "Тэўтонскі замак"; клуб "Крепость" (Тула) - займаецца рэканструкцыяй і ўзнаўленнем прыёмаў гістарычнага фехтавання і інш.

Яскравай рысай фестывалю стала яго музычная частка. Выступленні музыкаў суправаджаліся танцамі і рознымі прадстаўленнямі. І ў гэтым не было роўных гасцям з Польшчы. Іх паказальныя выступленні запалілі агонь любові да гісторыі роднага краю ў кожным з сэрцаў прысутных.

Зразумела, што рыцар не можа быць без дамы. Менавіта яны з'яўляліся галоўным упрыгожаннем фестывалю. Сваімі пяшчотнымі ўсмешкамі, ласкавымі позіркамі абранніцы падтрымлівалі мужных воінаў. Не лішне будзе заўважыць, што ўсе свае шыкоўныя ўбранні дзяўчаты стварылі сваімі рукамі. Некаторым, каб зрабіць сабе ўбор, спатрэбілася ажно дзесяць месяцаў. І мужныя рыцары таксама плялі, кляпалі свае кальчугі і даспехі самі.

Кожны клуб стараўся як мага больш наблізіць свае касцюмы да таго часу, рэканструкцыяй якога ён займаецца. Удзельнікі фестывалю з вялікай мужнасцю адстойвалі годнасць сваіх клубаў, паказваючы рыцарскую справу ва ўсёй прыгажосці.

За гэтыя тры дні кожны з прысутных стаў паўнапраўным удзельнікам цудоўнага свята, якое было прысвечана сярэднявеччу і рыцарскім турнірам і прасякнута музыкай менестрэляў, духам рамантыкі, крыжацкіх паходаў і слоўных змаганняў за сэрцы прыгожых дам. Стваралася такое ўражанне, як быццам ты гартаеш добрай якасці падручнік па гісторыі, які так хочацца чытаць і перачытваць, а адклаўшы, зноў узяць у рукі.

**Алена ГАЛУЗА.**

## Назначэнні

Мінскі абласны выканаўчы камітэт сваім распараджэннем назначыў на пасаду начальніка ўпраўлення адукацыі Мінскага аблвыканкама

### Данілевіч Таісу Іванаўну

Таіса Іванаўна нарадзілася ў 1958 годзе ў в.Усце Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. У 1982 годзе закончыла Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут, а ў 1999 годзе – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

З 1977 па 1979 год працавала настаўнікам Чаланецкай пачатковай школы Салігорскага раёна, а з 1979 па 1981 год – настаўнікам пачатковых класаў сярэдняй школы № 1 Салігорска. З 1985 па 1986 год была настаўнікам гісторыі і арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай работы сярэдняй школы № 1 Салігорска, ты з 1986 па 1995 год – арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай рабоце, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце.

У 1995 годзе працавала загадчыкам аддзела арганізацыйна-кадравай работы Салігорскага гарвыканкама, а з 1995 па 1997 год – загадчыкам аддзела адукацыі Салігорскага гарвыканкама. З 1997 года да лютага 2002 года – старшынёй Салігорскага гарадскога Савета дэпутатаў.

З 5 лютага 2002 года – начальнік упраўлення адукацыі Мінскага абласнога выканаўчага камітэта.

Весткі

## Пасвяцілі ў выратавальнікі

**_У сярэдняй школе №11 г. Наваполацка прайшла вечарына-пасвячэнне ў выратавальнікі вучняў класа па прафесіянальнай падрыхтоўцы па спецыяльнасці "Ліквідацыя надзвычайных сітуацый"._**

Клас па спецыяльнасці "Ліквідацыя надзвычайных сітуацый" у сярэдняй школе №11 працуе першы год. Ён быў утвораны па ініцыятыве Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Міністэрства адукацыі пры падтрымцы абласнога ўпраўлення МНС і аддзела адукацыі Наваполацкага выканаўчага камітэта. На сённяшні дзень у класе вучыцца 16 хлопцаў. У праграму навучання ўваходзяць не толькі агульнаадукацыйныя прадметы, але і дысцыпліны, звязаныя непасрэдна з пажарнай справай: "Папярэджанне і ліквідацыя надзвычайных сітуацый", "Падрыхтоўка па пажарна-прыкладных відах спорту", спецкурс "Хімія і гарэнне". На больш высокім узроўні ў класе вывучаюць фізіку і матэматыку.

У праграму вечара ўваходзілі розныя конкурсы, у якіх будучыя выратавальнікі маглі паказаць не толькі фізічныя здольнасці, але і артыстызм, уменне знаходзіць выйсце з любой сітуацыі. Ці абяруць у будучым усе вучні класа МНС гэты нялёгкі шлях, пакажа час, а зараз наперадзе ў іх – вучоба і ўмацаванне асабістага здароўя, бо гэта асноўныя крытэрыі для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Юных выратавальнікаў прыйшлі павіншаваць бацькі, сябры, а таксама ансамбль "ФЭСТ" аварыйна-выратавальнага атрада "Палімір", які ўзяў шэфства над вучнямі гэтага класа. На свяце кожнаму з падлеткаў было выдадзена пасведчанне аб тым, што ён з'яўляецца вучнем класа МНС сярэдняй школы №11 г. Наваполацка. На заканчэнне вечарыны хлопцы далі клятву ўсюды і заўсёды шанаваць гонар і званне выратавальніка.

## Радавод склалі вучні

**_У Наваполацкім музеі гісторыі і культуры адбылася навукова-практычная канферэнцыя, мэтай якой стала падвядзенне вынікаў навуковай дзейнасці музея за апошні год. Упершыню на канферэнцыі свае навуковыя даследаванні прадставілі вучні наваполацкіх школ._**

Вялікую цікавасць выклікала гісторыка-генеалагічнае даследаванне вучняў 11-й школы, якія пад кіраўніцтвам намесніка дырэктара В.Царэнка працавалі над састаўленнем радаводу знакамітай і унікальнай для Наваполацка сям'і Геновых. Цэлы шэраг прац этнаграфічнага накірунку прадставілі вучні школы №5 Марына Ракшня, Ганна Мароз і іх кіраўнікі – настаўнікі гісторыі Е.Сцепчанка і Г.Сугакова. Супрацоўнікі музея плануюць і ў далейшым праводзіць сумесныя навукова-практычныя канферэнцыі з мэтай прыцягнення да даследчай працы як мага больш цікаўных і дасведчаных маладых новапалачан.

**Вольга МІНЯНКОВА.**

## Класны дэманструе "клас"

**_У актавай зале абласнога Цэнтра маладзёжнай творчасці нядаўна не было, як кажуць, нават дзе і яблыку ўпасці. А сабрала яна шырокую аўдыторыю з нагоды конкурсу класных кіраўнікоў Ленінскага раёна Брэста._**

У фінале прызавыя месцы аспрэчвалі ажно шасцёра ўдзельнікаў. Іх ацэньвалі як журы з вопытных педагогаў, так і гледачы. Згодна з праграмай неабходна было прадэманстраваць педагагічнае майстэрства, уменне адказваць на пытанні вучняў і іх бацькоў, нават паўдзельнічаць у дыскатэцы.

Канкурсанты атрымалі падарункі. А пераможцам стаў Алег Бурда – выкладчык матэматыкі з сярэдняй школы № 18.

– Наш класны – самы класны!

Бадай, так мелі права сказаць пра яго вучні, якія прыйшлі падтрымаць свайго настаўніка.

Шчырыя апладысменты і воклічы гучалі і ў адрас канкурсантаў-настаўнікаў – класных кіраўнікоў Святланы Шломы, Сяргея Аўдзейчука, Вольгі Чарненкі і Галіны Масюк.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ.**



*Паважаныя чытачы!*

**Працягваецца падпіска на другі квартал 2002 года.
Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздрук"
да 20 сакавіка ўключна**

Настаўніцкая газета – выданне асветнікаў Рэспублікі Беларусь

Падпісны кошт
для індывідуальных падпісчыкаў:
на квартал – 4200 рублёў;
на месяц – 1400 рублёў.
Па ведамаснай падпісцы:
на квартал – 11400 рублёў;
на месяц – 3800 рублёў.
Індэкс для індывідуальнай падпіскі – 63867,
для ведамаснай – 63363.

Дырэктарскае крэда

# Сітуацыя поспеху

***Яна - энергічны і мабільны чалавек. Ведае, калі трэба ўсміхнуцца, а калі кінуць строгі погляд. Умее ставіць мэты, а потым дасягаць іх. Яшчэ яна - проста прыгожая жанчына і добрая гаспадыня, бо толькі ў добрай гаспадыні заўсёды ва ўсім парадак. У Наталлі Уладзіміраўны Бушнай, дырэктара 1-й сталічнай гімназіі, усё пад кантролем. Яна можа стварыць спрыяльныя ўмовы і вырашыць праблемы - як сапраўдны кіраўнік.***

**- Наталля Уладзіміраўна, вы з'яўляецеся не першым дырэктарам гімназіі. Колькі часу вы займаеце гэтую пасаду і што атрымалі ў "спадчыну"?**

– Першага сакавіка споўнілася дванаццаць гадоў нашай гімназіі. Гэта была першая навучальная ўстанова такога тыпу на Беларусі. І якраз у гэтыя дні спаўняецца тры гады, як я займаю пасаду дырэктара 1-й Мінскай гімназіі імя Ф.Скарыны. Першым жа дырэктарам была Людміла Міхайлаўна Лабадаева. Безумоўна, педагагічны калектыў гімназіі быў першапраходцам у стварэнні сістэмы навучальных устаноў новага тыпу. Што я атрымала ў "спадчыну?" Вельмі высокі прафесійны патэнцыял педагагічнага складу, потым дух гімназіі, які з'яўляецца асаблівым, бо тут лунае дух супрацоўніцтва. Гэта не проста нейкія фармальныя паказчыкі (перамогі на алімпіядах), а ўзаемапавага паміж вучнем і настаўнікам. Ну, і натуральна – нашыя вучні не даюць нам, настаўнікам, заставацца на нейкім адным узроўні – яны настолькі дапытлівыя, што мы павінны развіваць свой патэнцыял далей.

**- Ці з'явілася што-небудзь новае за час вашага праўлення?**

– Падчас майго дырэктарства мы правялі работу па ўдасканаленні і замацаванні псіхолага-педагагічнай службы гімназіі. І зараз у нас працуе выдатная псіхолага-педагагічная служба. На высокім узроўні ажыццяўляецца вучоба педагогаў. Займаемся асветай адзін аднаго – праводзім тэарэтычныя семінары, канферэнцыі, "круглыя сталы" і г.д.

**- Наталля Уладзіміраўна, вы ўжо вопытны кіраўнік ці - як гаворыцца ў адной казцы: "Я не чараўнік, а толькі вучуся?"**

– Нейкі час я працавала дырэктарам суседняй школы, таму сякі-такі вопыт маю.

**- А ці ёсць у вас свой "рэцэпт" адбору педагогаў для гімназіі?**

– У нас заработная плата вышэй, чым у звычайных школах. На працу прымаем на конкурснай аснове – настаўнік год адпрацаваў, потым на паседжанні навукова-метадычнага савета вырашаецца, хто як справіўся, і выбіраюцца лепшыя. Да таго ж кіраўнік павінен быць добрым псіхолагам, ён павінен бачыць чалавека – паглядзець яму ў вочы, выцягнуць з яго пару выразаў, а тады ўсё стане зразумела. Канешне, галоўнае, каб малады спецыяліст валодаў прафесійнымі якасцямі педагога – грунтоўнае веданне і любоў да свайго прадмета, безумоўна, любоў да дзяцей і ўменне творча падыходзіць да падачы матэрыялу. Неабходна, каб настаўнік быў даступны кожнаму вучню.

**- Наконт кіраўніка-псіхолага. У сваім багажы вы маеце "фірмовыя" пытанні для тых настаўнікаў, хто жадаў бы ў вас працаваць?**

– Ведаеце, самае, так бы мовіць, "фірмовае" пытанне – як вы адносіцеся да сваёй прафесіі? Калі пры адказе ў вачах гарыць агонь, значыць, усё атрымаецца.

**- Кіраўнік - гэта не толькі псіхолаг, а яшчэ і прадстаўнік адміністрацыі. Як праходзіць рабочы дзень дырэктара гімназіі?**

– Рабочы дзень дырэктара гімназіі можна спланаваць, але іншы раз жыццё можа ўнесці такія карэктывы, што ўсё пойдзе ў другім напрамку. Я стараюся як мага больш быць, як гаворыцца, на людзях. Калі няма сваіх урокаў, я ўсё роўна павінна бачыць дзяцей, педагагічны калектыў, абавязкова павінна пагутарыць з настаўнікамі, некаму сказаць добрае слова, падтрымаць. Не зрабіўшы гэтага, адчуваю, што не выканала сваю праграму на дзень. Зараз мы ўвесь час гаворым пра асобасна арыентаваны падыход у навучанні. Вось такі асобасна арыентаваны падыход павінен быць і ў кіраўніка ў адносінах да сваіх падначаленых. Каб чалавек рос у прафесійным плане, яго трэба заахвочваць. Я не скажу, што толькі і раздаю ўсім усмешкі, іншы раз бываю вельмі строгай, але толькі ў сваім кабінеце.

**- Наталля Уладзіміраўна, на вашу думку, якімі якасцямі павінен валодаць кіраўнік?**

– Лічу, што кіраўнік любога рангу павінен валодаць аналітычным розумам, прагнастычнымі здольнасцямі, умець глядзець у будучыню. Кіраўнік сам павінен быць вельмі арганізаваным чалавекам, дакладным ва ўсім, паказваючы прыклад сваім падначаленым. Яшчэ раз паўтаруся, што кіраўнік павінен быць добрым псіхолагам. І яшчэ – добрым дыпламатам.

**- Вы пералічылі шэраг чыста мужчынскіх якасцей, ды й кіраўнік - гэта больш мужчынская прафесія. Як адчувае сябе жанчына ў гэтым амплуа?**

– Жанчыне быць кіраўніком вельмі цяжка. І гэта разумее толькі сям'я, якая, дарэчы, час ад часу скардзіцца, што прыходзіцца сядзець на сасісках. Але што рабіць? Разумееце, калі табе твая праца падабаецца, калі ў цябе атрымліваецца, дык ты сярод ночы прачнешся з думкай аб працы, а не пра асабістыя праблемы – зацягвае. Гэта ўжо лад жыцця. З нашымі настаўнікамі і вучнямі інакш немагчыма. А часам трэба пазаймацца і самаадукацыяй.



Кіраўнік таксама павінен расці прафесійна. У мяне быў вялікі прабел у ведах па псіхалогіі. Зараз магу пахваліцца – за апошнія гады падняла свой узровень у гэтым плане.

**- Тым не менш, акрамя таго, што вы - дырэктар, вы яшчэ і настаўнік, прычым вельмі дакладнай навукі - матэматыкі...**

– Я вельмі люблю матэматыку, люблю свой прадмет і радуюся таму, што ў маіх вучняў гараць вочы, што яны захопленыя гэтым прадметам. І ўвогуле, маё педагагічнае крэда – каб вучань на ўроку не сядзеў дарэмна, нават калі матэматыка яму і непатрэбная ў вялікім аб'ёме. Ён можа дома "прасачкаваць". Хай сабе яго будучыня, напрыклад – філалогія, але на ўроку папрацаваць павінен.

**- З педагагічным крэда ўсё зразумела, а што з дырэктарскім?**

– Дырэктарскае крэда... Ведаеце, я вырасла ў сям'і вельмі працавітых людзей. Мае бацькі ўвесь час гаварылі, што трэба працаваць. Я лічу, што мая пасада прызначана для калектыву, для дзяцей, таму я павінна стварыць камфортныя ўмовы як для настаўнікаў, так і для вучняў. Гэта задача адміністратара.

**- Напэўна цяжкасцей хапае...**

– Не без гэтага. Безумоўна, матэрыяльныя цяжкасці стаяць на першым месцы. Стараемся вырашаць іх самастойна. Вельмі дапамагаюць бацькі, разумеючы, што ў першую чаргу дапамагаюць сваім дзецям. За гэта ім вялікі дзякуй. Што датычыцца вучэбных пытанняў, іх таксама вырашаем самастойна. Разумееце, кожны чалавек павінен выконваць абавязкі на сваім працоўным месцы. Чаму наша краіна так дрэнна жыве? Таму што гэтыя абавязкі не выконваюцца. У кожнага з нас ёсць функцыянальныя абавязкі. Вось нават папка існуе, дзе запісана што павінен рабіць выхавальнік, псіхолаг, настаўнік і г.д. Працаваць у гімназіі цяжка, але цікава.

**- Наталля Уладзіміраўна, апошняе пытанне - вам падабаецца ваша праца?**

– Калі прыходзіш на дыван і цябе пачынаюць адчытваць літаральна за ўсё, думаеш: хутчэй бы стаць звычайным настаўнікам. Але калі атрымліваецца, дык падабаецца. Як дзеці гавораць – сітуацыя поспеху: калі атрымліваецца, дык і вучыцца хочацца.

**- Дзякуй за размову, і поспехаў вам.**

**Гутарыла Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Пачатковая школа

# Крыштальныя сасуды

Галоўная каштоўнасць грамадства – дзіця. Настаўнік стаіць ля пачатку развіцця яго асобы. Асцярожна і клапатліва ён дапамагае юнаму чалавеку раскрыцца, усяляе ў яго ўпэўненасць, дае магчымасць адчуць уласную каштоўнасць.

У сваёй рабоце я кіруюся наступнымі перакананнямі:

– Настаўнік павінен сам быць асобай, каб дапамагчы і дзіцяці стаць асобай.

– Працаваць так, каб школа для маленькага чалавека была домам, месцам, дзе ён адчувае сябе ў бяспецы, дзе яму ўтульна, у якім бы душэўным стане ён ні знаходзіўся. Вельмі добра працуе на гэта "Вясёлка настрою", калі дзеці, прыходзячы ў школу, адлюстроўваюць свой настрой у колеры. І калі пасля ўрокаў настрой маіх вучняў змяніўся з сумнага на вясёлы, радасны – гэта для мяне лепшая ацэнка маёй працы.

– Прымаючы ідэі гуманна-асобаснай канцэпцыі навучання і выхавання Ш.А.Аманашвілі, я імкнуся развіваць у сваіх вучняў не толькі розум, але закрануць і тонкія струны душы кожнага дзіцяці, напоўніць іх сэрцы любоўю і даброй, пачуццём адказнасці за сябе і сваіх таварышаў, гатоўнасцю прыйсці адзін аднаму на дапамогу. Гэтаму спрые класны стэнд "Краіна ведаў". Кожны вучань імкнецца працаваць так, каб як мага хутчэй прывесці караблі ў гэтую краіну.

У нашай гімназіі вучацца адораныя дзеці – гэта генафонд беларускай нацыі. Таму навучанне вядзецца на самым высокім навуковым узроўні, выкарыстоўваюцца перадавыя адукацыйныя тэхналогіі, якія даюць не проста веды, а вучаць і самапазнанню, уменню рабіць адкрыцці, творча выкарыстоўваць атрыманыя веды. Найбольш поўна адпавядае сучасным патрабаванням да матэматычных ведаў вучняў матэматыка Ады Адамаўны Ходавай, дарэчы, беларускага аўтара. Яна грунтуецца на апэратарнай канцэпцыі ліку. Аператарная канцэпцыя ліку ў пачатковых класах заключаецца ў тым, што лічбавы сімвал уводзіцца як абазначэнне некаторых аперацый, якія можна выконваць з пэўным матэрыяльным аб'ектам. Гэтая методыка грунтуецца на натуральнай цікавасці малодшых школьнікаў да пераўтварэння матэрыяльных аб'ектаў. Методыка Ходавай – гэта яшчэ і гульневая дзейнасць, займальнасць, што якраз і неабходна пачаткоўцам.

Наша гімназія працуе 11 гадоў па гэтай тэхналогіі і мае пэўныя дасягненні. Так, у вучняў сярэдняга звяна тых класаў, якія займаліся па матэматыцы А.А.Ходавай у пачатковых класах , – стопрацэнтная паспяховасць па гэтым прадмеце, а якасць іх ведаў дасягае 90–95%. А дзевяцікласнікі, выбіраючы кірунак сваёй будучай дзейнасці, аддаюць перавагу таму, дзе матэматыка вывучаецца паглыблена.

Дзеці займаюцца ў многіх гуртках навуковых цыклаў, напрыклад, у клубе "Эрудыт". Але наша задача – памятаць, што маленькі чалавек – гэта крыштальны сасуд, і трэба асцярожна напаўняць яго ведамі, не даць яму разбіцца ад перагрузак, памятаць, што дзеці – гэта яшчэ і здароўе нашай нацыі.

Бацькам сваіх вучняў я заўсёды раю: са шматлікімі, значнымі для нас, дарослых, справамі можна пачакаць, а дзіця чакаць не можа. Менавіта зараз, калі яно расце, фарміруецца, развіваецца – яго час. І мы не можам сказаць яму "Заўтра", яго імя – "Сёння".

**Кацярына СВІРЫДОВІЧ, настаўніца пачатковых класаў 1-й гімназіі Мінска.**

НА ЗДЫМКУ: матэматычныя "хады" Ходавай.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

# *Ток-шоу:* "Не для школы - для жыцця вучымся", *альбо Мастацтва справядлівасці*

***Чарговы ўрок. Чарговы клас. Апошняя парта. Вельмі зручнае месца, каб сачыць за настаўнікам, але не за вучнямі. Можна толькі слухаць, адчуваць, назіраць за рухамі іх спінаў, але нельга глядзець ім у вочы - адлюстраванне душы і чалавечай сутнасці, таму адзінае выйсце - прыслухоўвацца да эмацыянальных або спакойных галасоў. Іншы раз гэта рабіць цяжка, бо большую частку ўрока гаворыць настаўнік, а іншы раз - вельмі лёгка, як адбылося ў "чарговым класе", на "чарговым уроку".***



Калі я вучылася ў школе, мы з задавальненнем хадзілі на прадмет "Чалавек і грамадства", там можна было паразважаць, выказаць сваё меркаванне наконт рэалій нашага жыцця, таму з ужо настальгічным задавальненнем я ішла на такі ўрок у 11 клас першай сталічнай гімназіі. Мне зноў захацелася стаць вучаніцай, каб прыняць актыўны ўдзел у дыскусіі, а не быць пасіўным гледачом-назіральнікам. Да таго ж, заняткі былі няпростыя як па сваім змесце, так і па форме.

Спачатку пра змест. Урок быў па правах чалавека на тэму "Пазітыўнае права. Натуральнае права". Пачынаўся даволі традыцыйна – з вуснаў настаўніка прагучалі тэма, план, эпіграф, паняцці, якія вучні павінны ведаць, да таго ж, гэта ўсё было запісана на дошцы. Падумалася – самы што ні на ёсць традыцыйны і сумны ўрок! Але Надзея Дзмітрыеўна Жаўняк (настаўніца) задала не вельмі традыцыйнае пытанне: "Якіх мэт вы хочаце дасягнуць падчас урока?" З аднаго боку, вучні нічога не ведаюць – тэма ж новая! А з другога – ёсць тэма, план урока, якія дапамогуць зарыентавацца з мэтамі, таму адразу пасля пытання пасыпаліся адказы: "Ведаць свае правы", "Зразумець прынцыпы справядлівасці" і г.д.

Вось тут хочацца перайсці да формы ўрока, бо дзякуючы ёй ён атрымаўся цікавым, хоць інфармацыя і была досыць цяжкай. Урок прайшоў у форме ток-шоу – у актыўным абмеркаванні наступных паняццяў: права, нацыянальнае права, прынцып справядлівасці, суб'ектыўнае права, аб'ектыўнае права, пазітыўнае, натуральнае права, канцэпцыя правоў чалавека. Шчыра кажучы, я не ведала большай колькасці пералічаных тэрмінаў, таму з цікавасцю слухала іх азначэнні, што "нараджаліся" падчас абмеркавання. "Як вы лічыце, якая роля права ў жыцці грамадства?" – задала натхняльнае пытанне Надзея Дзмітрыеўна. Адказы не прымусілі сябе доўга чакаць.

– Аснова ўсіх законаў – захаванне правоў іншага чалавека.

– Права – спосаб ураўняць усіх людзей перад законам.

"Як звязаны агульначалавечыя каштоўнасці і права?" – задала наступнае пытанне настаўніца.

– Права – мастацтва справядлівасці.

– Асноўная ацэнка крытэрыяў права – справядлівасць.

"Самае галоўнае тое, што кожны з вас можа выказаць свой пункт погляду. Гэта вашае права, – працягвала дыскусію Надзея Дзмітрыеўна. – Але пяройдзем да больш канкрэтнага – што такое аб'ектыўнае права?" Тут быў лекцыйны момант – адзінаццацікласнікі пад дыктоўку запісалі азначэнне. А потым, нарэшце, я даведалася, што ж такое пазітыўнае і натуральнае права. Да таго ж, гэтыя паняцці з'яўляліся асноўнымі на ўроку. Пазітыўнае права – распрацаваныя чалавекам юрыдычныя нормы, замацаваныя законам, які дзейнічае ў сённяшні час. Натуральнае права – сукупнасць праваых нормаў, што гарантуюць выкананне неад'емных правоў чалавека.

Напрыканцы ўрока адбылася добра вядомая многім настаўнікам рэфлексія. "Ці рэалізавалі вы свае мэты, пастаўленыя на пачатку ўрока?" – спытала Надзея Дзмітрыеўна. Зусім неабавязкова гаварыць адказ. Справа не ў гэтым, галоўнае, каб кожны вучань зразумеў, усвядоміў і запомніў тое, што чуў на ўроку. Прагучалі дамашняе заданне (скласці праект "Грамадства, у якім я хачу жыць"), а потым – і званок з урока.

Асноўныя ўражанні ад убачанага і пачутага – разумна, хутка, эмацыянальна і эфектыўна. Звычайны пачатак, але нетрадыцыйны ход урока. Не было такіх момантаў, як тлумачэнне новага матэрыялу, замацаванне новых ведаў. Была дыскусія, жывая размова, у якой настаўнік выступаў у ролі вядучага. Усё адбывалася па сцэнарыі ўжо добра вядомых нам з тэлебачання ток-шоу. Але гэта – толькі адна з форм, якая дае магчымасць разнастаіць і прыгожа абыграць не вельмі просты змест такіх урокаў. Наколькі мне вядома, падручнікаў па правах чалавека няма, існуе толькі дапаможнік, выпушчаны Міністэрствам адукацыі, які, дарэчы, набыць таксама немагчыма. Вось тут настаўніку даецца тая свабода, калі ён вымушаны працаваць творча.

– Як я рыхтуюся да ўрока? Ведаеце, гэта самае пакутлівае і творчае пытанне. Калі тэарэтычны матэрыял яшчэ можна знайсці, дык скласці структуру ўрока так, каб было цікава спасцігаць сухую тэорыю, даволі цяжка. Пры пабудове сваіх урокаў кіруюся логікай, стараюся зразумець, што неабходна маім вучням, іншы раз пытаюся пра гэта ў іх саміх. Такая вось калектыўная творчасць. У асноўным карыстаюся такімі формамі, як дыялог, дыспут, дыскусія, не адхіляю і лекцый, звяртаемся да формы круглага стала, мадэлявання, групавой формы работы, трэнінгаў. Галоўнае, каб ішла жывая, адкрытая гаворка, каб кожны меў магчымасць выказаць сваё меркаванне, – ужо на перапынку сказала мне Надзея Дзмітрыеўна Жаўняк.

Заўсёды цяжка быць першым, але і цікава, бо ты становішся творча свабодным. І разам з тым гэта вельмі адказна – дзеці не даруюць памылак.

Чарговы раз, калі выходзіла ўжо са школы, падумала: бывае чарговы ўрок, чарговая (апошняя) парта, але не бывае чарговых вучняў. Кожны з іх – асоба, якая патрабуе асобасна-арыентаванага падыходу, таму настаўнікі ў апошні час усё больш і больш звяртаюцца да інавацый, прыдумваюць іх самастойна. Зараз наша школа знаходзіцца ў стане эксперыменту, галоўная мэта якога – не нашкодзіць дзіцяці, падрыхтаваць яго да дарослага жыцця, дзе няма ні "двоек", ні "пяцёрак". І лагічна і аргументавана выказвацца павінен умець кожны. Думаю, дарэчы будзе выказванне Сенекі: "Не для школы – для жыцця вучымся". Школа – адна з прыступак у ім. Яна ж – дае магчымасць падымацца вышэй.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: "Ёсць цяжкасці? Звяртайцеся да нас!"; Надзея Дзмітрыеўна Жаўняк: "Пазітыўнае права – гэта..."

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Метадычны кабінет

# Скарбонка творчасці

***Метадычная служба гімназіі ў яе сённяшнім выглядзе сфарміравалася толькі два гады назад, але ўжо сёння з'яўляецца важным звяном вучэбна-выхаваўчага працэсу. Яе дзейнасць вызначаецца канцэпцыяй развіцця навучальнай установы, у якой акрэслены прынцыпы і накіраванасць педагагічнай палітыкі гімназіі ў сучасных умовах з улікам найноўшых уяўленняў аб узроставых асаблівасцях і магчымасцях асобы і канкрэтнага сацыяльнага заказу.***

Метадычная сетка гімназіі – дастаткова традыцыйная: навукова-метадычны савет (НМС), прадметна-цыклавыя кафедры, метадычныя аб'яднанні (МА) настаўнікаў-прадметнікаў, школа маладога педагога (ШМП). Акрамя таго, працуюць некалькі творчых груп: па ўкараненні тэхналогіі кааператыўнага навучання ў практыку работы настаўнікаў замежнай мовы, па вывучэнні асноў дэмакратыі і міжнароднага гуманітарнага права, па ўвядзенні інавацыйных тэхналогій у практыку работы пачатковай школы.

Метадычная служба – зладжаны, жывы арганізм, дзейсны і эфектыўны. Усе яе звенні ўдзельнічаюць і ў рэалізацыі дыягнастычных даследаванняў, якія ажыццяўляюцца сумесна з псіхолагамі (іх у гімназіі тры, двое – аспіранты), і ў выпрацоўцы тактыкі адукацыйнага працэсу ў гімназіі на бягучы вучэбны год, зыходзячы са стратэгіі развіцця навучальнай установы, закладзенай у тэматычных комплексна-мэтавых праграмах, аб'яднаных Канцэпцыяй развіцця гімназіі.

Планаванне работы на наступны навучальны год пачынаецца яшчэ ў сакавіку з абмеркавання на метадычных аб'яднаннях поля іх дзейнасці і формы ўдзелу кожнага педагога ў распрацоўцы адзінай метадычнай тэмы гімназіі, а завяршаецца ў маі на пасяджэннях навукова-метадычнага савета, дзе прымаецца праект гадавога плана. На працягу мая-чэрвеня праект дапрацоўваецца, узгадняецца з кіраўнікамі прадметна-цыклавых кафедр, удакладняецца, і да моманту адыходу ў адпачынак кожны педагог ведае, што ўвайшло ў гадавы план работы, і мае магчымасць лепш падрыхтавацца да яго рэалізацыі.

Планы работы асобных службаў: псіхолагаў, сацыяльнага педагога, загадчыка бібліятэкі, прадметна-цыклавых кафедр, саюза гімназістаў, індывідуальныя планы педагогаў – скаардынавана ўключаюцца ў гадавы план.

Важнейшымі складнікамі дзейнасці НМС з'яўляюцца аналіз і карэкцыя работы навукова-метадычнай службы, садзейнічанне развіццю інавацыйнага клімату ў гімназіі. Напрамак гэтай работы вызначыла педагагічная нарада "Традыцыі і інавацыі", якая прайшла ў лістападзе 2001 года. У ходзе яе падрыхтоўкі на пасяджэннях метадычных аб'яднанняў быў праведзены аналіз эфектыўнасці папулярных сёння педагагічных тэхналогій і ацэнена магчымасць іх выкарыстання ў гімназіі з улікам рэальных умоў арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу, як і асабістых магчымасцей педагогаў.

У ходзе дэкады адкрытых урокаў па тэме нарады былі выяўлены "адрасы" інавацыйных пераўтварэнняў у педагагічным калектыве:

– Дальтан-урокі па асобных тэмах праграмы па фізіцы;

– модульныя комплексы па біялогіі;

– тэхналогія дэбатаў і каапэратыўнага навучання на ўроках замежнай мовы;

– навучанне па праграме "Школа-2100" у пачатковай школе;

– тэхналогія педмайстэрняў на ўроках літаратуры;

– тэхналогія калектыўнай разумовай дзейнасці на ўроках гісторыі.

Усё ўбачанае было ўважліва прааналізавана на пасяджэннях прадметных метадычных аб'яднанняў і вынесена на абмеркаванне ўдзельнікаў педагагічнага савета. Станоўчы вопыт знайшоў свой працяг і паслядоўнікаў у далейшай рабоце калектыву.

Трэба адзначыць, што ў гімназіі склалася свая сістэма падрыхтоўкі да педагагічных нарад. Канцэпцыя і папярэдні сцэнарый нарады распрацоўваюцца метадычнай службай і абмяркоўваюцца на НМС, і толькі потым выносяцца на пасяджэнні метадычных аб'яднанняў. Пасля іх прыняцця ўсімі педагогамі пачынаецца практычная работа па падрыхтоўцы: вывучаецца літаратура па праблеме нарады, папаўняецца скарбонка перадавога вопыту, аналізуюцца вынікі дыягностык. Рашэнні любой педагагічнай нарады – плён калектыўнай дзейнасці адміністрацыі, метадыстаў, членаў метадычнага аб'яднання, творчых груп настаўнікаў. Можа, менавіта таму выкананне рашэнняў становіцца справай гонару кожнага члена калектыву.

Метадычныя аб'яднанні настаўнікаў забяспечваюць рэалізацыю новых ідэй і падыходаў да навукова-метадычнай работы, ажыццяўляюць размеркаванне сіл настаўнікаў згодна з іх індывідуальным выбарам па неабходных напрамках работы, садзейнічаюць самарэалізацыі і прафесійнаму росту членаў МА, ацэньваюць і рэкамендуюць да абагульнення цікавы вопыт. У рабоце кожнага метадычнага аб'яднання можна адзначыць уласцівую толькі гэтай групе педагогаў накіраванасць індывідуальнай дзейнасці.

Найбольш паспяховая сфера прыкладання творчых сіл метадычнага аб'яднання рускай мовы і літаратуры – рэалізацыя індывідуальных творчых праектаў па развіццю крэатыўнасці вучняў, падрыхтоўка да алімпіяд, фарміраванне навыкаў даследчай работы, а МА настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры – зварот да нацыянальнай культурнай спадчыны праз далучэнне вучняў да правядзення фальклорна-каляндарных святаў, арганізацыю конкурсных гульняў, КВЗ, віктарын, літаратурных вечарын, работу спецкурса "Цікавае і займальнае беларусазнаўства".

У дзейнасці настаўнікаў прыродазнаўчых дысцыплін выразна прасочваецца планамерная распрацоўка і выкарыстанне ўласных дыдактычных сістэм: модуляў для курса біялогіі, аўтарскага спецкурса "Канфлікталогія" для 7-га класа, універсальнага дыдактычнага матэрыялу па хіміі, сістэмы апорных канспектаў і тэстаў для праверкі ведаў па геаграфіі, удзел у рабоце клуба "Эрудыт" у пачатковай школе.

Практычна кожны член метадычных аб'яднанняў дакладных навук унёс свой уклад у работу па стварэнні адаптыўнай сістэмы навучання матэматыцы, якая рэалізуе прынцып як паміж рознымі ступенямі адукацыйнай сістэмы (у тым ліку падрыхтоўка да прафілізацыі ў старшых класах і да паступлення ў ВНУ), так і паміж рознымі матэматычнымі курсамі.

Метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў вызначае сістэмнасць у асваенні інавацыйных тэхналогій і методык: навучанне матэматыцы па методыцы Ходавай-Петэрсан; "Школа-2100"; развіццёвае навучанне праз сістэму заняткаў па інтарэсах.

У рамках МА выхавацеляў гімназічных класаў працуе некалькі творчых груп, кожная з якіх займаецца распрацоўкай і сістэматызацыяй матэрыялу ў дапамогу арганізатарам пазакласных мерапрыемстваў: сцэнарыяў правядзення класных гадзін па маральнай тэматыцы, сістэмы заняткаў па фарміраванні здаровага ладу жыцця, па прававым выхаванні, тэматыцы бацькоўскіх сходаў.

Асновай работы МА настаўнікаў замежнай мовы стала вывучэнне асобасна арыентаваных тэхналогій дэбатаў і каапэратыўнага навучання, якія развіваюць творчы патэнцыял і камунікатыўныя навыкі вучняў. Плёнам прафесійнага ўзаемадзеяння настаўнікаў замежнай мовы з'яўляецца пастаянны абмен вопытам, увасобленым у канкрэтных дыдактычных, тэматычных і паўрочных распрацоўках, што садзейнічае стварэнню спрыяльных умоў для прафесійнага росту маладых педагогаў, якіх сярод настаўнікаў замежнай мовы даволі многа.

Наогул, радуе тое, што кожнае метадычнае аб'яднанне адным з важнейшых напрамкаў сваёй дзейнасці лічыць падтрымку маладых спецыялістаў і актыўна дапамагае праз сістэму заняткаў у Школе маладога педагога ў рэалізацыі праграмы іх адаптацыі: вопытныя настаўнікі даюць кансультацыі, праводзяць тэматычныя майстар-класы, арганізуюць наведванне ўрокаў і іх абмеркаванне, сумесна з маладымі настаўнікамі распрацоўваюць сцэнарыі ўрокаў.

**Вольга АРЛОЎСКАЯ, настаўніца рускай мовы і літаратуры гімназіі №1, метадыст.**

